*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 25 (660) 30 ЧЭРВЕНЯ 2004 г.**

# 3 ліпеня - 60 год вызвалення Беларусі




## 27 чэрвеня споўнілася 15 гадоў з дня Ўстаноўчага з'езду ТБМ



27 чэрвеня ў Менску прайшло ўрачыстае пасе-джанне Сакратарыяту ТБМ імя Ф. Скарыны, прымерка-ванае да 15-х угодкаў Уста-ноўчага з'езду Таварыства ў 1989 годзе. Сакратарыят прайшоў у некалькі пашы-раным складзе. Акрамя сяб-роў прысутнічалі першы старшыня ТБМ Ніл Гілевіч, дырэктар гуманітарнага ліцэя Уладзімір Колас, кі-раўнік Беларускага ПЭН-цэнтра Лявон Баршчэўскі, сябры рады ТБМ і кіраўнікі асобных суполак і інш.

*(Працяг на ст. 5.)*

## Змены ў Законе аб мовах будуць

НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
**ПАЛАТА ПРАДСТАЎНІКОЎ**
220010, г. Мінск, Дом Урада.
тэл. (0172) 22-35-14,
факс (0172) 27-37-84



НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
**ПАЛАТА ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ**
220010, г. Минск, Дом Правительства,
тел. (0172) 22-35-14,
факс (0172) 27-37-84

18.06.2004 № 37-14/783
на № 137 ад 17.05.2004

**Старшыні грамадскага аб'яднання
"Таварыства беларускай мовы
імя Ф. Скарыны
Трусаву А. А.**

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

У Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу завершана работа па падрыхтоўцы праекта Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь". Аднак паколькі законапраект не быў уключаны ў план падрыхтоўкі законапраектаў на 2004 год, ён пакуль не ўнесены ва ўстаноўленым парадку ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь і, адпаведна, не можа быць уключаны ў парадак дня бягучай сесіі.

Камісія па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу накіравала ў Нацыянальны цэнтр законапраектнай дзейнасці пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь свае прапановы аб уключэнні згаданага праекта закона ў план падрыхтоўкі законапраектаў на 2005 год.

**Намеснік Старшыні
Палаты прадстаўнікоў
Нацыянальнага сходу
Рэспублікі Беларусь** **У. М. Канаплёў.**

## Выстава да 15-годдзя ТБМ



27 чэрвеня ў сядзібе ТБМ на Румянцава-13 у Менску адбылося адкрыццё выставы нацыянальнага плаката слыннага беларускага мастака Уладзіміра Крукоўскага, прымеркаванай да 15-годдзя ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны". Сярод выстаўленых - плакаты, вядомыя ўсёй Беларусі. Яны станавіліся графічнымі сімваламі адраджэння Беларусі на розных вітках нашага пакручастага лёсу.

**На здымку:** Уладзімір Крукоўскі рэпрэзентуе выставу на паседжанні Сакратарыяту ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны".

*(Працяг тэмы на ст. 5.)*





Алена Багамолава, канд. філ. навук

# Моўная адметнасць сучаснага гістарычнага рамана

## *(на матэрыяле рамана Васіля Якавенкі "Надлом")*

Раман Васіля Якавенкі "Надлом" ахоплівае шмат найзначных падзей, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі, і часткова за яе межамі. Праўдзівасць, навізна гэтага маштабнага твора раскрываецца не толькі праз паказ рэальных гістарычных асоб (Сталін, Гітлер, Кубэ, Готберг, Скірмунты, Астроўскі, Калубовіч і інш.), але і праз стварэнне ўвогуле рэалістычных вобразаў (Пятро, Барыс, Паўлюк Пісарчукі і іх сем'і, Мэндаль, Сяргей Калінічэнка, Данік Плюнгер). Аўтар стварае сапраўдную панараму сялянскага жыцця: тут дакладна апісваюцца быт і гаспадарка сялян, прыгатаванне страў, віды працы ў розныя часы года, народныя святы (а якія святы без песень!), звычаі.

Вастрыня праблем, узнятых у рамане, глыбіня зместу, галерэя вобразаў робяць твор надзвычай цікавым, а знаёмства з ім — захапляльным.

Пярэстасць і вірлівасць падзей, сутыкненне прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў на скрыжаванні часу, адлюстраванага ў гістарычным рамане "Надлом", патрабуе як гістарычнай, так і сацыяльнай стылізацыі. Асноўнымі моўнымі сродкамі, якімі карыстаецца пісьменнік для стварэння каларыту пэўнай эпохі, з'яўляецца ўжыванне *варварызмаў*, графічна асвоеных ці неасвоеных беларускай моваю, і *састарэлых слоў*, якія называюць пэўныя з'явы, прадметы, пасады, уласцівыя канкрэтнаму часу. Для таго, каб падкрэсліць адметнасць маўлення персанажаў, аўтар выкарыстоўвае словы ці выразы з украінскай, польскай, нямецкай моў: *Хліб – нэ жэна, з'їў, дай нэма* (с.142); *Покатылась, як брэхня по сэлі* (с. 228); *Нех бэндзе пахвалёны* (с. 91); Самі па сабе яны ніц не вырашаюць (с. 292); *Скажы ему, пенькне паненка, жэ его хцяў бы забачыць пан Клямка* (с. 500); Я бачу, што пецярога вам недаступна. *О, майн гот*! (с. 370); *Варум? Вас золь дас бедойтен?* – Чаму? Як гэта разумець (с. 203); *Auf wen von Ihren Generallen konnen sie sich ferlassen?* — Каму са сваіх генералаў вы цяпер давяраеце? (с. 326).

З састарэлых слоў найбольш часта ўжываюцца *гістарызмы*, выкарыстанне якіх забяспечвае дакладнасць, праўдзівасць празаічнаму радку: Дакладваю ў *настарунак*, што адтуль грабуся дадому. А сам разам з вамі — да мяжы (с. 55); У хуткім часе звесткі з тых рапартаў былі абвешчаны *службамі СС* несапраўднымі, выдуманымі, чынілася заслона, каб не дапусціць іх у канцылярыю *фюрэра* (с. 372); У Менску дзейнічае *Беларуская Цэнтральная Рада*, якая выконвае ў пэўнай меры і функцыі ўрада, а цяпер стварающца батальёны *Беларускай Краёвай Абароны* (с. 470) і г.д.

Арганічна ўплятаюцца ў моўную тканіну твора іншыя сродкі стылізацыі мовы — *адметныя словы ці выразы размоўнага маўлення — дыялектызмы, прастамоўі, формы з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі, клічны склон назоўніка, простыя форма будучага часу дзеясловаў* і інш: *шэльма галайдакаваты* (с. 49); Праходзь — праходзь, *браце*, госцем будзеш (с. 54); [Маня] расплюшчвала вочы акурат *надасвецці*, *нагастрала* слых... (с. 62 — 63); На ёй была белая вышываная блузка і белая ў кветкі спадніца, а на шыі — *мысюры*, гэта значыць пацеркі... (с. 63); Добра, *дзетка* — маміна кветка (с. 74); Для гожай маталянкі падзеі ў яе родным кутку *бытта* спыніліся на тым трагічным момансе (с.14); А любая б па такім *сохла!* (с. 241); А вось, *даражэнькі*, сяджу, як мухамор атрутны... (с. 331); А там дамалі гоцаў хлопцы, што *рабіцьмуць* (с. 400); Але ж мы селі за стол. Каб асэнсаваць *шо-колечы* (с. 111); Во дачакалася *галубка*! (с. 241), Цяпер і горыч, і сум той, і страх той, адчай — *усё-усёнькае* застанецца там... (с. 445).

Такія словы і выразы дазваляюць аўтару перанесці чытача ў пэўную мясцовасць, каб той "на ўласныя вушы мог пачуць" адметную гаворку, больш яскрава ўявіць сабе моўны каларыт жыхароў заходнебеларускага мястэчка Моталь.

Яркім лексічным сродкам выразнасці мовы з'яўляюцца, як вядома, *фразеалагізмы*, асабліва тыя, што маюць размоўную афарбоўку, таму натуральна, што ў творы пра сялянскае жыццё мы сустракаем "россып" гэтых устойлівых зваротаў, якія, з аднаго боку, адлюстроўваюць нацыянальны каларыт беларускай мовы, яе багацце і непаўторнасць, а з другога — забяспечваюць дакладнасць і вобразнасць аўтарскіх ацэнак: ніхто чамусьці *не хацеў даваць веры* (с. 54); *трапіш туды, куды Макар цялят не ганяў* (с. 59); *такім палец у рот не кладзі* (с. 66); *не памнажаць грэх на грэх* (с. 72); *сядзелі як на іголках* (с.77); *не кожны сон у руку* (с.100); *цахі пад пахі* (с. 126); *ці прыкусіць язык , ды зрабіць выгляд* (с. 72); мы ж як *той гарох пры дарозе* (с. 130); *думкі калясом пайшлі* (с. 188); *мароз на скуры прабягае* (с. 189); *ветрам падшыты* (с. 277); я тут, *як мыш пад венікам* (с. 311). Многія з прыведзеных фразем ужыты ў дыялогах, а гэта значыць, што яны таксама з'яўляюцца актыўным сродкам стылізацыі, які надае мове персанажаў адценне нязмушанасці, натуральнасці і экспрэсіі.

Яшчэ больш трапнымі і вобразнымі ўяўляюцца нам беларускія прыказкі, зычэнні і скорагаворкі, якія аўтар таксама выкарыстоўвае ў мове дзейных асоб, каб яшчэ раз паказаць мудрасць і густ селяніна, яго жыццёвую філасофію: *Ад жарабка скура і на плоце гагоча* (с. 65); *Госць — не костка, за вароты не выкінеш* (с. 111); *Калі ёсць карак, наезнікі заўсёды знойдуцца* (с. 189); *А што занадта, таго і свінні не ядуць* (с. 191); *Касой камень не перарэжаш* (с. 223); *На дабро адгукаюцца нават бярэзіны* (с. 237); *Каб у вас увесь час было на стале, у місцы, і ў калысцы* (с. 244); *Дай Божа, каб усё было гожа, а што ніц нягожа — не давядзі Божа* (с. 284); *Кажуць, калі хто топіцца — за саломку ўхопіцца* (с. 292); *У тры секачы сякуць, аднаго рака пякуць* (с. 310); *Вядома, Бог ёсць Бог, але не будзь і сам плох* (с. 332); *Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка* (с. 376); *Вайна мучыць, а не вучыць* (с. 395); *Свайго лёсу і на валах не аб'едзеш* (с. 411); *Работа міла, ды дзень кароткі* (с. 4 2). *Чэлік, чэлік — доўгі нос, куды цябе чорт панёс, не падмазаўшы калёс* (с. 103). Як сведчыць аналіз моўных фактаў, уласна фраземы і прыказкі забяспечваюць лаканічнасць, дакладнасць і выразнасць празаічнага радка, а таксама — глыбокі падтэкст, бо ацэньваюць, як ужо адзначалася, самыя розныя факты, жыццёвыя сітуацыі ці характары персанажаў, іх знешні выгляд.

Вельмі важна, каб гістарычны твор, насычаны вялікай колькасцю рэальных фактаў, падзей, вобразаў, не пераўтварыўся з мастацкага ў публіцыстычны. Адной з самых вызначальных моўных рысаў, якая адрознівае тэксты названых стыляў з'яўляецца вялікая колькасць агульнамоўных і аказіянальных вобразных сродкаў у тканцы мастацкіх тэкстаў, што мы і назіраем у рамане Васіля Якавенкі "Надлом". Прычым, самыя прадуктыўныя тропы, якія і складаюць адметнасці пісьменніцкага стылю, гэта эпітэты, параўнанні, метафары, перыфразы.

*Эпітэт* у празаічным радку рамана выяўляе спецыфічнае аўтарскае ўспрыманне свету ў цэлым і асобных з'яў у прыватнасці: У прыродзе наогул усё было такое *дзівосна цнатлівае, новае і заўсёднае, вечнае...* (с. 42); за іх плаваннем у здзіўленні сачылі *беласнежныя, чыстыя, вабныя* кветкі — вадзяныя лілеі...(с. 245); *Знясіленая, сцішаная, самотная* ў недзіцячых сваіх разважаннях [Маня] (с. 123); Пачуць на свае вушы толькі што *народжаную, свежую* або няхай сабе і *скамечаную* ў народзе *навіну* (с. 254); Праўда, была заўсёдная радасць ад *яркіх, светлых, цёплых, жыццядайных, вабных промняў сонца*, калі яно прабівалася праз туман...(с. 503).

Як відаць, кожны эпітэт — важкая, убачаная ці перажытая аўтарам асаблівасць — дэталь, у якой не толькі інфармацыя, але і эмоцыя, якой ён шчодра дзеліцца з чытачом. З дапамогай гэтага тропа пісьменнік, як правіла, характарызуе знешні выгляд персанажаў, іх унутраны стан: Узнёсласць Маніных пачуццяў тлумачылася тым, што да яе завітаў дзедусь, а разам з ім — і *светлае-прасветлае*... дзяцінства ... (с. 13); Барыс ведаў, што Скірмунту ўжо каля шасцідзесяці, але на выгляд ён быў маладжавы і меў *энергічны позірк, востры, дапытлівы* (с. 28); Гэта быў *прысадзісты*, з *агніста-рыжай бародкай* і шырокай пляшынай на макаўцы *гном*, іменна так ён [Клямка] *успрымаўся* (с. 39); [Клямка] уткнуўся на момант *невялікімі мітуслівымі вочкамі* ў Барысаў *погляд, глыбокі і доўгі* (с. 39); *Паўлюк* — гэткі *пеўнік, гарачы, задзірлівы* (с. 17); *Невялікі пакацісты лоб, крутыя чорныя бровы*, угору прычэсаны сіваватыя *валасы, густыя, шчаціністыя* (с. 101); ... *хваравіта-бянтэжлівая ўсмешка* на чыстым паголеным твары (с. 142); Ды пасля слёз і пакут, пасля вылітай на *дзяцей гаркаватай пяшчоты* — чаму не парадавацца? (с. 149); Міховіч глядзеў на яго ў *нямым здзіўленні* (с. 215). Прыведзеныя эпітэты — гэта і агульнамоўныя (*энергічны позірк, шчаціністыя валасы*), і аўтарскія (*светлае-прасветлае дзяцінства, гаркаватая пяшчота*) разнавіднасці тропа, якія індывідуалізуюць вобразы, падкрэсліваюць іх знешнюю і ўнутраную адметнасць.

Асаблівай высокай выразнасцю, на наш погляд, валодаюць эпітэт аксюмараннага характару (*гаркаватая пяшчота* (с. 149); Данік быў *моцны і слабы чалавек* (с. 171); Маня пачувала сябе адначасова *і дарослай, і малой дзяўчынкай* (с. 93), а таксама метафарычныя эпітэты (*злыя жарты* (с. 265); *востры выпадак* (с. 268); *свет калючы, заросы быльнягом* (с. 287); *шырокія, важныя клопаты* (с. 73); *дрымотныя галінкі* (с. 5); *кручаны свет* (с. 138); *росная радасць* (с. 123). І ў першых, і ў другіх разнавіднасцях тропа ўвасобілася складаная прызма аўтарскіх асацыяцый, супярэчлівасць і вастрыня жыццёвых з'яў, людскіх характараў.

Структурна-граматычнае выражэнне эпітэта ў рамане "Надлом" вызначаецца багаццем, разнастайнасцю: найперш вобразныя азначэнні Васіля Якавенкі — гэта простыя і складаныя якасныя прыметнікі, ужытыя з прамым ці пераносным значэннем: *дрымотныя галінкі* (с. 5), *грэшная зямля* (с. 13), *агніста-рыжая барада* (с. 39), *глыбокі і доўгі погляд* (с. 39), *гнятлівая і даўкая паўза* (с. 58), *шырокія, важныя клопаты* (с. 73), *тонкі-тонюткі дрот* (с. 83), *кудлатыя цені* (с. 105), *хваравіта-бянтэжлівая ўсмешка* (с. 142), *гаркавая пяшчота* (с. 149), *нямое здзіўленне* (с. 215), *беласнежныя лілеі* (с. 245), *злыя жарты* (с. 265), *мяккае красавіцкае сонейка* (с. 78), *срэбная музыка* (с. 117), *калючы свет* (с. 287), *жыццядайныя промні сонца* (с. 503).

Па-другое, эпітэт у рамане — гэта і дзеепрыметнікі, і дзеепрыметныя словазлучэнні: *хмары, падпаленыя сонцам* (с. 88), *спакутаваная сялянская душа* (с. 18), *ацяхлы і прытоены палац* (с. 117), *паламаная хада жыцця* (с. 266), *скамечаная навіна* (с. 254), *свет, заросы быльнягом* (с. 287), *аблыселыя цёбскія пагоркі* (с. 378).

Часам эпітэт можа выражацца назоўнікам, утвараючы лаканічныя і эмацыйныя вобразныя азначэнні — прыдаткі: *Паўлюк – пеўнік* (с. 15), *Маня – золатка* (с. 43), *маладосць – ліхадзейка* (с. 41), *селянін – творца* (с. 83), *ногі – шэльмы* (с. 102) і інш.

Даследчык беларускага эпітэта прафесар Н.В. Гаўрош слушна вылучае групу гэтых тропаў, выражаных спалучэннем прыслоўя з прыметнікам [1, 6]. Такія злітныя, або двайныя, эпітэты сапраўды арыгінальныя, бо прыслоўе, выражаючы ступень якасці, названую прыметнікам, яшчэ як бы ўзмацняе "вышыню" аўтарскай эмоцыі, чым забяспечвае яшчэ большую выразнасць мастацкага радка. Шэраг такіх эпітэтаў знаходзім у рамане *бяспечна вясёлы* [Павел] (с. 58), [усё ў прыродзе] *дзівосна цнатлівае* (с. 42); *дзівосна свежыя* [лілеі] (с. 42).

*Параўнанне* Васіля Якавенкі вызначаецца, на наш погляд, асаблівай свежасцю, непаўторнасцю, арыгінальнасцю. Яно як бы "высвечвае" падабенства ў непадобным, вылучае найістотнейшае з істотнага пры стварэнні вобраза, апісанні той ці іншай з'явы: І гэтая *думка, бы той востры бізун*, сцёбала па ім, гнала яго (с. 56); Ён [пан Юргенсон] звычайна быў падцягнуты, жвавы, з *вусамі*, што разыходзіліся ў бакі *стрэламі* (с. 71); *Выпетраны, зжоўклы, бы перапелы агурок на градцы* (с. 212); Сонца ўлагоджвала паветра *густым, аксамітным, як ліпавы мёд*, настоем промняў (с. 212); ... *галава* ў чалавека была скрозь паголеная і *нагадвала плафон малочнага колеру*, крыху выцягнуты ад падбародка да макаўкі (с. 232); Маня стаяла перад ім *танклявая, бы чарацінка* (с. 237), Тут жа і *Волька* сядзела, *бы сыраежка*, у крэсле (с. 263); Лёгкая ў руках, бы ластаўка — Ганна (с. 264); *Шырокі, бы тая карта-аднавёрстка, лоб* (с. 335); Аднак гэты, хударлявы і жылаваты, *бы касой пацягнуў* па ім сваім *вострым позіркам*... (с. 477); Клямка *руды, як падпалены корч*... (с. 124); Яму пастаянна хацелася ўскідваць *рукі шаблямі ўгору* і крычаць ура (с. 143); *галава нагадвала крутабокі парудзелы гарбуз* (с. 144).

Як відаць, прадмет параўнання (тое, з чым параўноўваецца) у адносінах да аб'екта параўнання (тое, што параўноўваецца) адметны нечаканасцю аўтарскіх паралеляў, відочнасцю, натуральнасцю; уводзячы гэты троп ў мову персанажаў, Васіль Якавенка нібы гл-дзіць на з'явы іх вачыма, чым таксама забяспечвае твору рэалістычнасць, мове — дакладнасць, выразнасць: Маня прачнулася *радасная, бы вясельны гармонік, лёгкая, бы пушынка* (с. 13); Літары і словы на паперы *клаліся шчыгульна і вольна, не раўнуючы, як пракос у добрага касца* (с. 52); *А мы, бы тыя вусені на капусце* (с. 40); Навобмацак яно [слова байкот] *было нейкім круглым, бы яйка* (с. 76); *Зямелька* ўсведамлялася дзедам Пятром, дый грамадой увогуле, аб'ёмна, бы той *бохан хлеба* (с. 80); *Пчолы гойдаліся ў паветры на крылах, як на нябачных арэлях* (с. 86); "... на безыменным пальцы яго сядзеў залаты пярсцёнак, *тоўсты, пукаты, бы літы павук* (с. 94); *Шырокія шкельцы акуляраў у тонкай аправе на носе і шыракаватыя пругія шчокі* [госця] *нагадвалі* Пятру *пукатую перламутравую галаву авадня або стракозы* (с. 222); І *швед* выскачыў адтуль *з адным вокам, бы чорт з пекла* (с. 406); Без гаспадара *ў душы Аксінні, бы ў хаце, з якой нячысцікі вынеслі печ* (с. 435).

(Заканчэнне на ст. 4.)

Алена Багамолава, канд. філ. навук

# Моўная адметнасць сучаснага гістарычнага рамана

## (на матэрыяле рамана Васіля Якавенкі "Надлом")

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 3.)*

Як сведчыць фактычны матэрыял, параўнанні ў рамане таксама структурна разнастайныя: звычайна яны ўводзяцца ў тэкст злучнікамі *як, бы, як бы, што, нібы*, а ў якасці аб'екта параўнання выступаюць самі прадметы, так і іх дзеянні, уласцівасці: Такія *людзі — як дойліды* (с. 39); ... *пасунуліся* наперад крадкамі, *бы здані* (с. 57); пярынкі *цудоўныя, бялюткія, нібы накрухмаленыя* (с. 123); *наляцеў, як коршак* (с. 146); *Зоркі пераліваліся* чырванаватым і белым святлом. *Бы тыя вугельчыкі пад подыхам ветру* (с. 163); Гаспадар *Пятро рабіў з імпэтам, нібы гонячы астатнюю ў сваім жыцці баразну* (с. 164); *Лоб — што ў буйвала! Цвёрды* (с. 344); [восеньскае сонца], *як позірк касой маладзіцы,* прабягала і падала (с. 254); *Зімовы дзень — што доля сірочая*, няпэўны, нядоўгі (с. 409); Свет, у якім цяпер правадзіла дні і ночы Раманавічанка Маня, быў *як бы сплюснуты, як прыціснуты аблокамі да самай зямлі* ... (с. 444).

Радзей параўнанне ўводзіцца ў тэкст словамі *не раўнуючы* (уласцівас жывому народнаму маўленню) *і нагадвала*: ...а голас Палко, наадварот, *тонкі і слабы, не раўнуючы, як у ягняці* (с. 134); ... у гэты момант *Насця нагадвала* Мані ці то *расцвіўшы сланечнік, ці мак у агародзе* (с. 376); *сэнс слова "вучыцелька" быў* такім жа высокім і недасягальным — *не раўнуючы, як тая аблачына ў небе* (с. 76); [*Маня] нагадвала ляльку* (с. 80); *галава нагадвала крутабокі парудзелы гарбуз* (с. 144); *літары і словы на паперы..., не раўнуючы, як пракос у добрага касца* (с. 52).

Дэталізуюць малюнак і лаканічныя параўнанні, выражаныя назоўнікамі творнага склону: [*вусы*] разыходзіліся ў бакі *стрэламі* (с. 71); *Маня маланкаю сігануда* (с. 71); *рукі — шаблямі* (с. 143); *ногі — цыркулем* (с. 170)*; кудзеля звісала мяккай сівой барадой* (с. 373).

***Метафара*** ў параўнанні з іншымі тропамі лічыцца складаным вобразным сродкам мовы, які займае галоўнае месца пры стварэнні яркіх, аб'ёмных вобразаў. Уменне аўтара адшукаць падобнае ў непадобным, незвычайнае ў звычайным заўсёды падкрэслівае арыгінальнасць яго мыслення, ствараe адметнасць стылю. Метафара Васіля Якавенкі – яркі стылістычны сродак, пабудаваны на свежых асацыяцыях: А пакуль *карчаваннем заможных сялян* займаліся, багата зямлі запусцела (с. 58); Але за святамі і *росыпам сямейных уцех* была праца і былі буднія дні (с. 65); У тым *жыццёвым калаўроце* годнасць жанчыны вызначалася акурат увішнасцю (с. 65); Зазвычай тут, каля школы, утвараўся ... своеасаблівы *кірмаш вучнёўскай весялосці* (с. 78); У вачах айца Георгія з'явіўся *агеньчык жывое* думкі (с. 130); *Сэрца* ў яго [Ладзі] *ахапіла замаразкам* (с. 133); *Раніца ўспарола* жыхароў вязніцы (с. 136); ... куды *лёс* зноў *павядзе* і дзе *выкіне* (с. 138); Сінічкі клявалі сала і час ад часу зыркалі на іх *пацерачкамі* сваіх *вачэй* ... (с. 148); Нябеснае свяціла неўзабаве схавалася за *лахманамі воблакаў* (с. 163); Немавед што тварылі польскія жандары, *выварачваючы жытло рэбрамі да неба* (с. 169); кінуў у натоўп новую *чародку слоў* афіцэр (с. 122).

Часам ужыванне адной метафары вядзе за сабой нанізванне новых метафар, накіраваных на раскрыццё таго самага вобраза, у выніку чаго ўзнікае так званая разгорнутая метафара [2, 135]. Варта адзначыць, што гэты стылістычны прыём уласцівы празаічнаму радку Васіля Якавенкі асабліва тады, калі ён з любасцю і пяшчотай гаворыць як бы назіраючы за роднымі краявідамі, за праявамі вясны і лета, зімы і восені. Улетку тая *зямля вабіла, захапляла, чаравала кветкамі, духмяніла* імі, буяніла імі, а ўзімку спачывала пад белым пульхным покрывам, *ахуталася ў серабрысты іней,* убіралася ў такія адмысловія строі да самых апошніх галінак дрэў, да вільчыкаў хат і *пела, пела; яна пела звонка і тужліва* ў трысніягах над возерам і пад стромкімі палазамі саней (с. 11); *Зіма хутала* зямлю ў белую коўдру. *Лета давала ёй магчымасць расцвісці, адкрасаваць, наліцца спелым коласам.* І, як заўжды, *яблынны Спас*. Ён *выстаўляў*, бы ў кірмашовы дзень, на ўсе бакі, наўкруг, *процьму сакоўных пладоў*, налітых, бытта начыненых промнямі сонца (с. 163); *Вясна* гэтага года ўжо хадзіла недзе блізка ад Моталя, яна неаднойчы *разрывала аблокі* і *кідала* ў прагалы *густымі жменямі сонца* на дахі хат і хлявоў, на палі і прасёлкі, на гаі, ахутаныя снежнымі гурбамі ды *белымі барoдамі інею* (с. 303). Прыведзеныя метафарычныя апісанні, аздобленыя эпітэтамі і параўнаннямі, кранаюць самыя таямнічныя стрункі душы чытача, а значыць, валодаюць высокамастацкай эстэтычнай вартасцю. Разгорнутыя віды тропаў у Васіля Якавенкі блізкія да адухаўлення, бо родны край, нягледзячы на пакуты і выпрабаванні, застаецца для аўтара жывым, найпрыгажэйшым у свеце.

Граматычнае выражэнне метафары ў кантэксце рамана таксама разнастайнае: тут і назоўнікавыя, і дзеяслоўныя віды яе агульнамоўных, так і арыгінальных аўтарскіх тропаў: *павуцінка ілжы* (с. 59), *парад вуліц* (с. 110), *нітка размовы* (с. 115), *людскі мурашнік* (с. 122), *кудзеля барады* (с. 130), *лахманы воблакаў* (с. 163), *паравічок помсты* (с. 167), *нервовы подзімак на сэрцы* (с. 233), *руіны мары* (с. 333), мацярык *кахання* (с. 517), І *настрой нявесціўся* (с. 28), вятры *нараджаюцца* (с. 73), *Ясельда ўпадабала* (с. 74), *сэрца высахла ад чакання* (с. 135), вычварна *пачаў віцца і плесціся, плесціся і віцца* ягоны неміласэрны *лёс* (с. 133), ... па нейкім дзіўным сабачым нахіле *жыццё пакацілася* (с. 138), сэрца *пачало біцца аб рэбры* (с. 239), *вайна дастане жалезнай дзюбай* (с. 87), на твары *зайграла нахабная ўсмешка* (с. 379), *хата анямела, асірацела* (с. 425).

У мовазнаўстве лічыцца, што *перыфразу* найчасцей ужываюць тыя пісьменнікі, стыль якіх вызначаецца высокай эмацыйнасцю [3, 115]. Паколькі мове гістарычнага рамана "Надлом" уласціва эмацыйнасць выкладу, то натуральна, што тут сустракаюцца перыфрастычныя звароты, з дапамогай якіх аўтар характарызуе – ацэньвае і самыя розныя абстрактныя паняцці (што ўяўляецца нам асабліва арыгінальным), і канкрэтныя з'явы, іх уласцівасці і дзеянні: *развага-маці суцяшэння* (с. 130); *гаспадарка —каштоўнасць пры любых вятрах і буpаломах у грамадстве* (с. 219); *дзве рукі дзеда — заўжды галоўныя дзейныя асобы на пасецы* (с. 83); Маня ўважліва сачыла за кожным рухам дзеда і за паводзінамі *крылатых стварэнняў* (с. 83); *Сям'я пчол — гэта крылатае грамадства*, ды не абы якое, а, канешне, тое, *што ўсвядоміла сябе супольнасцю, нацыяй* (с. 97); "купцы" *прыклейваліся вачыма да кожнага* (с. 160); *завязаць гаворку ў вузел* (с. 192); *Чалавек без радзімы*, без свайго асяроддзя — *рыба, выкінутая на бераг у непагадзь* (с. 422*); росная радасць — збіраць гусіныя пярынкі* (с. 123).

Каб сэнс аўтарскіх перыфраз не застаўся чытачу не зразумелым, пісьменнік правамерна ставіць тропы ў адпаведны шырокі кантэкст або прыводзіць у тым самым сказе тыя сінанімічныя ці агульнамоўныя словы (выразы), якія вытлумачвае. Перафразы ў рамане "Надлом" забяспечваюць радку глыбокі падтэкст, бо ў іх адлюстравалася эстэтычная, грамадская ацэнка з'яў, паняццяў.

Такім чынам, як сведчыць аналіз моўных фактаў, празаічнаму радку сучаснага беларускага гістарычнага рамана "Надлом" уласціва лаканічнасць, дакладнасць, вобразнасць і экспрэсіўнасць, якія забяспечваюцца разнастайнымі прыёмамі стылізацыі мовы, багаццем вобразных сродкаў, іх тыпаў.

# Усяму свой час

**У Горадні абавязкова будзе ўсталяваны помнік Васілю Быкаву. Яго прозвішчам назавуць праспект і навучальныя ўстановы. Таленавітыя навучэнцы скарыстаюцца дабротамі з Фонду імя знакамітага пісьменніка. Гараджане і госці наведаюць музей, экспанаты якога распавядуць пра 25-гадовы гарадзенскі перыяд жыцця празаіка...**

Заслужаны настаўнік Беларусі, вядомы краязнаўца Апанас Цыхун і прафесар Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы Аляксей Пяткевіч асабіста ведалі Васіля Уладзіміравіча. Мала сказаць, што ведалі, правялі разам не адзін дзесятак гадоў! Успаміны гэтых шаноўных асобаў слухаліся на адным уздыху. Многа невядомых шырокай грамадскасці фактаў дачуліся прысутныя пра сустрэчы Васіля Быкава і сяброў літаратурнага аб'яднання абласной газеты "Гродзенская праўда" ў сельскіх школах з чытачамі, абмеркаванні ў студэнцкай аўдыторыі чарговай кнігі пісьменніка.

Рысы характару аўтара многіх аповесцяў, напісаных у Горадні, найлепш праявіліся ў выпрабавальныя для яго 60-я — 70-я гады мінулага стагоддзя. Пасля публікацыі аповесці "Мёртвым не баліць" пачалося цкаванне пісьменніка. У друку з'явіліся зняважлівыя артыкулы, арганізоўваліся адкрытыя і закрытыя партыйныя сходы, на якіх крытыкавалі "за идейные ошибки". У вокны кватэры Васіля Уладзіміравіча паляцелі камяні...

Старэйшыя з прысутных прыгадалі сустрэчы з ім. Нехта прыносіў на прагляд свае літаратурныя пробы. Хтосьці апынуўся побач за бяседным сталом. Іншы слухаў выступленне пісьменніка. А гаварыць публічныя прамовы Васіль Быкаў не любіў.

— Кажуць, — заўважыў Аляксей Пяткевіч, — ён быў змрочны, негаваркі чалавек. Гэта як для каго. Мне даводзілася бачыць яго ў роздуме і разгубленым, сабраным у адзіны кулак і вясёлым. Ён мог пры выпадку і анекдотам пацешыць. Дарэчы, амаль няма надрукаваных фотаздымкаў Васіля Быкава, які ўсміхаецца. Усмешка яго была прыгожай, адкрытай, крыху сарамлівай.

Над сваімі творамі Васіль Уладзіміравіч працаваў хутка, не чакаў, пакуль прыйдзе натхненне, а як прафесіянал садзіўся за стол і клаў радок за радком на паперу. Рукапіс кардынальнай праўцы не падвяргаў, раз за разам аповесць не перапісваў, чым пахваляюцца іншыя майстры мастацкага слова. Больш уважліва ставіўся да карэктуры падрыхтаванай да друку кнігі. Ці не таму амаль штогод з'яўляўся новы зборнік?

Як пісьменнік Васіль Быкаў адбыўся ў Заходняй Беларусі. У Горадні ён жыў з 1947 па 1978 год з невялікім перапынкам на службу ў Савецкай Арміі. Тут ім напісаны повесці, якія прынеслі славу і прызнанне чытачоў, нянавісць і праслед з боку наменклатуры.

Гарадзенскі перыяд жыцця моцна паўплываў на светапогляд Васіля Уладзіміравіча. Ён прасякнуўся свабодалюбівымі памкненнямі Ларысы Геніюш і яе мужа Янкі, пісьменнікаў Аляксея Карпюка. Аляксея Пяткевіча, Дануты Бічэль, знаных краязнаўцаў Алеся Белакоза і Апанаса Цыхуна. А гэтыя асобы з маленства былі выгадаваны ў патрыятычным духу. Ім уласцівы моцны характар, карані якога трэба шукаць у мясцовых нацыянальных асаблівасцях, традыцыях і звычках.

Да прысутных з'вярнуліся таксама правамоцны сябра Міжнароднага ПЭН-клуба ад Беларускага ПЭН-цэнтра Валеры Задаля, старшыня гарадскога грамадскага аб'яднання ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, працы і Узброеных Сіл Мікалай Мельнікаў, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Леанід Закурдаеў, дэпутат гарадскога Савета Сяргей Антусевіч.

Вечарына памяці Васіля Быкава, прымеркаваная да 80-годдзя яго нараджэння і гадавіны з дня смерці, была падрыхтавана Гарадзенскім гарадскім аддзяленнем Беларускага рэспубліканскага грамадскага аб'яднання Таварыства беларускай школы.

***Антон Лабовіч, Горадня***

# Памяці Тадэвуша Поляка

4 чэрвеня ў 12.00 у капліцы в. Лапушна Дзятлаўскага раёна адбылася імша ў памяць Тадэвуша Поляка, тутэйшага ўраджэнца, міністра культуры Польшчы, вядомага польскага рэстаўратара якую правёў біскуп Антоні Дзямянка.



***Перад капліцай у Лапушне прадстаўнікі міністэрстваў культуры Беларусі і Польшчы, дочкі і ўнучкі Тадэвуша Поляка***

Пад час правядзення імшы ў капліцы ў памяць Тадэвуша Поляка была адкрыта памятная дошка з граніту памерамі 80 х 80 см з тэкстам выкананым сусальным золатам на беларускай і польскай мовах. Перад адкрыццём дошкі шмат слоў пра свайго сябра сказаў старшыня Беларускга фонду культуры Уладзімір Гілеп, які прапанаваў таксама выказацца аўтару дошкі, лідскаму скульптару Рычарду Грушу.

Далей свае ўражанне і цёплыя словы прызнання выказалі дзве дачкі Тадэвуша Поляка і тры ўнучкі, з Варшавы.

З польскага боку таксама прысутнічалі прадстаўнікі Міністэрства культуры з Варшавы. Супрацоўнік дэпартамента культурна гістарычнай спадчыны Польшчы – Даротта Янішэўска, дырэктар польскага інстытута Цэзары Карпінскі, памочнік пасла Польшчы ў Беларусі.

З беларускага боку ўдзельнічалі таксама прадстаўнікі міністэрства культуры, намеснік начальніка ўпраўлення па ахове культурна-гістарычнай спадчыны міністэрства Беларусі Васіль Чэрнік, член выканкама Беларускага фонду культуры Андрэй Вірчак.

Удзел ва ўрачыстасцях узялі прадстаўнікі мясцовых уладаў Навагрудскага і Дзятлаўскага раёнаў.

Пазней пад час правядзення імпрэзы ўдзельнікамі была выказана падзяка Р. Грушу за яго асабісты ўклад ва ўшанаванне памяці Тадэвуша Поляка - падарунак памятнай дошкі.

***Наш кар.***



# 27 чэрвеня споўнілася 15 гадоў з дня Ўстаноўчага з'езду ТБМ





На Сакратарыяце ў вольнай форме адбылося падсумаванне набыткаў і стратаў ТБМ імя Ф. Скарыны за прайшоўшыя 15 гадоў. Дастаткова было згадана і тога, і тога.

Выступалі старшыня ТБМ Алег Трусаў, першы намеснік старшыні Сяржук Кручкоў, рэактар газеты "Наша слова" Станіслаў Суднік, рэдактар газеты "Новы час" Алена Анісім, першы старшыня ТБМ Ніл Гілевіч, дырэктар Беларускага гуманітарнага ліцэя Уладзімір Колас, кіраўнік ТБШ Алесь Лозка і інш.

Было канстантавана, што за прайшоўшыя 15 гадоў ТБМ вяло бесперапынную барацьбу за найвялікшую святыню беларусаў - беларускую мову, якую Ніл Гілевіч паставіў вышэй і тэрыторыі, і прамысловасці.

Было прынята: асноўныя мерапрыемствы па святкаванні 15-годдзя ТБМ правесці пад 28 верасня (дата рэгістрацыі Таварыства) у выглядзе Свята беларускай бардаўскай песні ў Доме літаратара ў Менску.

Сяржук Кручкоў паведаміў пра зрухі ў стварэнні незалежнага беларускага спадарожнікавага тэлеканала. Вымалёўваецца схема размяшчэння абсталявання на тэрыторыі Літвы з пакрыццём практычна ўсёй плошчы Еўропы.

Уладзімір Колас перадаў старшыні ТБМ памятны адрас, а кіраўнік ТБШ Алесь Лозка ўзнагародзіў актывістаў ТБМ ганаровымі дыпломамі. Іншыя госці прыйшлі таксама не з пустымі рукамі .

***Яраслаў Грынкевіч.***

---

Калектыў **Беларускага гуманітарнага ліцэя** шчыра вітае **Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны** з пятнаццацігадовым юбілеем.

За гэты тэрмін зроблена безліч спраў дзеля дасягнення святой мэты адраджэння, абароны і развіцця нашай роднай мовы.

Сёння Таварыства яднае Сапраўдных патрыётаў Бацькаўшчыны, абаронцаў незалежнасці і дзяржаўнасці Беларусі.

Мы шчыра ўдзячныя Таварыству беларускай мовы за тое, што менавіта яно паспрыяла стварэнню Беларускага гуманітарнага ліцэя, менавіта сябры Таварыства беларускай мовы сталіся першымі выкладчыкамі ў ліцэі і ўзнялі ўзровень выкладання на сусветную вышыню. Мы ніколі не забудзем дапамогі, якую Таварыства беларускай мовы аказвае нашаму ліцэю сёння, у цяжкі для нас час.

Упэўненыя, што, дзякуючы руплівай працы Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, беларуская мова ніколі не знікне і зойме ў Беларусі тое месца, якое ёй па праву належыць. Упэўненыя таксама, што мы і надалей будзем ісці да гэтай мэты разам.

Зычым усім сябрам Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны добрага здароўя, бадзёрага настрою, далейшых поспехаў і здзяйсненняў на гэтым славутым шляху.

Жыве беларуская мова!

Жыве Беларусь!

**Калектыў Беларускага гуманітарнага ліцэя.**

*Менск, 27 чэрвеня 2004 г.*

---

**Шаноўнае спадарства!**

Вілейская гарадская суполка ТБМ віншуе ўсіх сяброў з 15-годдзем! Жадаем поспехаў і ўдачы ва ўсёй гэтай няпростай справе.

Жыве Беларусь!

З найлепшымі пажаданнямі

**Мікола Сусла, сябар Вілейскай гарадской суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны.**

# Плакаты Уладзіміра Крукоўскага



















---

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Галай Аркадзь – 10000 р., Свіслач.
2. Надзея Барт-Юрэвіч – 50 еўра, Германія.
3. Ляўковіч М. А. – 1000 р., г. Менск.
4. Абрагімовіч Марына –1000 р., г. Менск.
5. Казлоўская І. І. – 1700 р., г. Менск.
6. ТАА "Лінторг" – 50000 р., г. Салігорск.
7. Дырында Пётр – 10000 р., г. Свіслачскі р-н.
8. Стурэнты філфака Гомельскага у-та - 9000 р.
9. Паўлавец Зміцер - 9000 р., г. Гомель.
10. Пінская арганізацыя ТБМ – 10000 р.
11. Фурс Антон – 5000 р., г. Паставы.
12. Петруковіч Васіль – 12000 р., г. Менск.
13. Міхась Тычына – 3000 р., г. Слуцк.
14. Скідзян Алесь - 1000 р., г. Менск.
15. Чайкоўскі Павел - 5000 р., в. Кунцаўшчына.
16. Сафро Марыя - 5000 р., г. Масква.
17. Шалахоўскі Аляксей - 5000 р., г. Менск.
18. Мельнікаў Мікола - 5000 р., г. Горадня.
19. Макарчук А. І. - 5000 р., г. Менск.
20. Талуць Станіслаў - 5000 р., г. Гомель.
21. Скрэчка Анатоль - 10000 р., г. Мазыр.
22. Рамашэўскі Алесь - 1000 р., г. Менск.
23. Закрэўская І. В. - 15000 р., г. Менск.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).



№ 25 (660) 30 ЧЭРВЕНЯ 2004 г. Наша слова

# Была і такая вайна

**Успамінае Лявіцкі Часлаў Часлававіч.**
**(Нарадзіўся 7 сакавіка 1912 г., беларус, в. Нарач Мядзельскага р-на. Успаміны запісаны 7 жніўня 1999 г. Праўрацкім В.В.)**

***-Раскажыце, калі ласка, як жылося беларусам пры польскіх уладах да Другой сусветнай вайны?***

-Беларусь – гэта мы зваліся: ад Краснага і Маладзечна роўна Гродна і Сувалкі, затым па мяжы Літвы, Германіі і Польшчы. Гэта старана звалася Крэсы. Не звалася Беларусь, а Крэсы. Мы зваліся так ад таго, што да 1919 г. тут улада Расеі была (а я нарадзіўся ў 1912 г., дык памятаю). Польшча ж далей на захад месцілася, аж пакуль у 1919 г. не знайшоўся Юзаф Пілсудскі, які адбіў нашы землі да Польшчы. Таксама ў той час ад немца землі ля мора забраў. Палякам Амэрыка, Англія і Францыя дапамагла. Гэта я добра ведаю, бо калі я быў у арміі, прыязджала дэлегацыя амерыканская, ангельская і французская. Я, нават, ім афіцыянтам служыў, як яны ў альтанцы сядзелі пры аркестры. Яны прамову гавораць, як Амэрыка, Англія, Францыя сябравала з Польшчай і што і ў 39-м будуць палякам дапамагаць.

А Гітлер з трыццаць сёмага пачаў нападаць на Польшчу, каб палякі вярнулі нямецкія землі. Якраз у 36-м памёр Юзаф Пілсудскі – правадыр, які адбароў Польшчу. Прэзідэнтам стаў Ігнаці Масціцкі, а над арміяй – сілай збройнай – Рыдз-Сміглы. Калісьці Рыдз-Сміглы разам з Гітлерам вучыўся ў Штабе Ваенным і сябраваў з ім студэнтамі. Гітлер зразу нагаварыў Рыдза-Сміглага, свайго сябра, ісці сабе кулёніі забіраць, якія былі ў пачатку свету на карце. І пайшлі палякі на Чэхаславакію адбіраць Салёжанію. Гітлер даў Польшчы самалёты. Чэхаславакія прайграла і аддала палякам Салёжанію. Гэта было можа ў 1937 ці 1938, бо я пасля 36-га ўжо быў з арміі вярнуўся. Гітлеру ж толькі тое і трэба было. Ён сказаў: "Ты-то забраў Чэхаславакію, давай цяпер праезд". На той час немцы плацілі палякам за праезд, бо Германія ў двух кусках была падзелена. Пры Пілсудскім яшчэ Амэрыка-Францыя памагла землі нямецкія адбіць і да мора падступіцца, а Германію разлучыла. На дзве часткі Польшчай землі Германіі падзяляліся: Заходняя Прусія са сталіцай Інстэрбург, а на другой старане – Бэрлін. Таму немцы і плацілі грошы палякам за праезд па іхняй тэрыторыі.

У 37-м ужо пад 1938 г. Германія зусім націснула: "Дай нам праезд, а не тое вайной пойдзем". Але Польшчай распараджалася Амэрыка і Англія. Апёка была. І вось, яны кажуць, што нельга і ўсё.

Тады Гітлер вырашыў адзець армію ў адзенне студэнтаў і самасільна самапраўна ехаць гэтым самым пуцёві. А Польшча падмінавала чыгунку і ўзарвала, зламыла іхні цягнік і іх разам у кашу. Немцы тады два гады баяліся, не чапалі. Толькі праз радыё, кіно, газеты патрабавалі: "Аддавайце, бо ўсё роўна адаб'ём. А Амэрыка, Англія і Францыя адказваюць немцу болей як Рыдз-Сміглы, што нельга.

І калі Гітлер зусім пачаў нападаць, Польшча папрасіла ў Сталіна дапамогі проці Германіі. Гэты самы Сталін: "Вывесіць сцяг чырвоны і пушчай ідзёт – у кашу яго зложым"

Аднак Польшча больш фашысцкая была, камунізму не хацела. Ну дзе ж яна вывесіць сцяг? Гэта ж азначала паддацца пад Саветы. Не пагадзіліся. Тады Гітлер паехаў да Сталіна. Мы ўжо былі змабілізаваныя ў 1939 г. за два тыдні ў месяцы перад жніўнем, сядзелі толькі пры радыё і выніку чакалі. А немец як падпісаў дамову, адразу праз рацыю перадаў. І без усялякай затрымкі немцы лупянулі па нашай граніцы. Вайну аб'явілі.

Я быў змабілізаваны ў 6-ы полк у Вільні. Наша дывізія складалася з 5-га і 6-га палкоў пехаты ў Вільні, 85-га палка ў Маладэчне і 77 палка ў Лідзе. У Вільні 5-ты і 6-ты палкі загрузілі на плятформы разам з артылерыяй і, значыць нам была задача – ісці на Пултуск, да нямецкай граніцы. І толькі мы даехалі да Беластоку, а немец нам ужо дарогу разбіў. Белысток таксама быў разбіты. Маткі неслі дзетак без рук, без ножак. Неслі іх хавацца пад гарой за касцельнымі мурамі, а нашы санітары паратунак рабілі тэтым дзеткам.

У Белыстоку нас разгрузілі і мы пешшу пайшллі да Пултуска. Як сталі падыходзіць да граніцы, то бачым, што нам насустрач усё пахароны і пахароны. Што такое? Калі наша адміністрацыя прыгледзелася, аказалася што гэта немцы з прыгранічча перадаюць у трунах флёйдойчам амуніцыю. Флёйдойч – гэта калі жонка немка, а ён паляк, ці наадварот. А наша адміністрацыя паглядзела толькі на гэта і мы як ішлі фронтам, так і пайшлі. Проста нашым чапаць нельга было. Гэта ўваходзіла ў кампетэнцыю іншага кіраўніцтва, пэўна, жандармерыі.

І, значыць, да Пултуска прыйшлі 3-га ці 4-га верасня. У кожнага жаўнера стаяла задача трох нямецкіх вайскоўцаў забіць, каб абараніцца, бо іх нацыі было ў тры разы болей. Дык мы ўглыб Германіі на пятнасце кіламетраў увайшлі. Раніцай нам сказалі, што калі яшчэ два такія цёсы зробім, то мы выйграем Польшчу. У Даленку далі нам кухню, паесці. Потым загадалі выкінуць лішнія адзеялы з пляцака, зруляваць шынэлькі – ўсё, каб лягчэй было ў наступленні. Далі па 6 штук сухароў пшанічных, жалязная порцыя, у баначцы кансервы пазапіхалі ў карман. І толькі гэтак мы паелі і зноў выступілі ў барацьбу, як даў раптам немец сілу і мы дзве нядзелі толькі ў адступленні былі. Толькі ў адступленні. А нідзе не далі зламыцца. Мы пехатой, а яны вакол транспартам. Карты ж маюць тэрыторый. Забягуць наперад і тады з аднаго боку, з другога крыжавымі агнямі кулямётамі, аўтаматамі, артылерыяй – і зноў у кашу. Бачым што нічога так не будзе. Тады наша дывізія як ёсць пехата, артылерыя, кавалерыя, звяд лісапедны, хацела лесам немцам не дацца, каб дайсці да Варшавы. Хоць у Варшаву трэба было немца не ўпусціць. Дарэчы, у вайну дзве нядзелі Варшава трымалася, болей чым уся Польшча. Але мы палову дарогі дайшлі да Варшавы і каля Седліц нас забралі ў палон.

Да Седліц дайшлі 14 ці 16 верасня і ўжо разабралі нашу дывізію. А мы яшчэ адзін дзень трымаліся. Было можа 16 ці 17 верасня. У сасонніку мы пахаваліся і раптам бачым, што нас акружылі над ракой. Немец ужо фішкі кідаў, што Польшча зліквідзіравана, усё забрана і чаго гэта толькі наша крошка борыцца. Але наш ксёндз ваенны – капэлян – зарганізаваў з разьбіткаў кумпанію і ўночы пайшлі нямецкія акопы разбіваць. Яшчэ мелі тады коней, на конях была артылерыя, амуніцыя. Таксама сказалі, што наша кавалерыя ўдарыць па немцах. І, вось, уначы капэлян закандаваў: "Наперад!" Мы пайшлі ў атаку, але як толькі закрычалі "гура!" немцы пражэктары паўключалі, як лямпы ўсё роўна. І дзень зрабілі. А кавалерыя памылку зрабіла ды па нас яшчэ сцебанула. Мы тут і зламаліся. Аднак, бачым, немец цясніцца крыху пачаў. Тады мы зноў рванулі наперад. Аселі па дарозе ў хутарках Сточкі і Марозы – гэта была мясцовасць вясковая каля Седліц. Колькі змаглі ваявалі на гэтых хутарках. Завулічны быў бой. Тут немец на плоце вісіць, тут паляк вісіць. З-за вуглоў мы біліся. Пад раніцу і патронаў не было з амуніцыяй, бо бароліся ўсю ноч. Усё роўна днём немец выступіў з гэтых хутаркоў, мы засталіся.

На раніцу выпадкова сустрэўся з братам, які ехаў на машыне. Мой брат Рышард Лявіцкі быў паручнікам у польскай арміі. Раней Рышард настаўнічаў у польскай школе. А потым пайшоў ахвотнікам у армію. Сябра яго пайшоў мараком, а ён пайшоў на самалёты. Але перш чым дапусціць на самалёты, абавязкова трэба было тры гады адбыць у артылерыі процілётнай. Гэта часць да вайны стаяла ў Парубанку, недалёка ад Вільні. І тут раптоўна ён пад'ехаў на мяне. Адразу пытаецца:

- Ці пад'еўшы?

- Ужо чацвёрты дзень не еўшы, усё ў адступленні. – кажу брату.

Тады Рышард павёў у машыну, а там бяры сухароў, хлеба, банак кансервы колькі хочаш. Паелі мы там і ён кажа:

- Сядай у машыну, паедзем. На машыне лепей.

Брат сам за рулём сядзеў, а яго шофер ужо без ног ляжаў.

- Не, -адказваю. можа як травой-лесам з акружэння праб'ёмся. А на машыне дзе ж ты праедзеш?

Брат адзін паехаў. Пасля вайны ён быў з'ехаў у Польшчу, жыў у Ольштыне. Цяпер яго няма, памёр. Жонка, сям'я асталіся...

А мы з сябрам, як Рышард паехаў, пайшлі да нашых на ўзлеску. Там нас ужо няшмат засталося. А тут раптам немцаў дзве ці тры брыгады з аўтаматамі. Вывелі нас з узлеску, аж ужо там тысячы чалавек стаяць на полі з нашай дывізіі.

Нас адразу ў турму пасадзілі за тое, што да апошняга трымаліся.

Аднак, трэба сказаць, польскіх ваяк паважалі немцы. Потым Гітлер нават аркуш прыслаў вахману чытаць, дзе напісаў: "Мне польскага жаўнера і маё ўзбраенне – на ўвесь свет пайду і заваюю". Вахману было загадана па картачках даць польскаму палоннаму цукру трохі, хлеба, мяса. А ў хатах вахман акрамя таго, ці замкнёная рама жалезная, правяраў ці чыста спіцё.

Французаў прыгнаў пазней. Разам з намі працавалі ў гаспадара на полі. Гітлер жа даў па французкай граніцы адразу пасля Польшчы. А ў Францыі была пастаўлена ля нямецкай граніцы лінія Магеноты, што на 25 гадоў была забяспечана рознай прадукцыяй, амуніцыяй. Лінія Магеноты ў зямлі так была пабудавана, што зверху ні машыны, ні артылерыя, ні самалёты нічога не разбіваюць. Гітлер даў, нічога не разбіў і абыйшоў на Бэльгію. Такая слабенькая дзяржава Бэльгія была, як і Польшча. Адзенне такое ж у вайскоўцаў, як у палякаў. Толькі кутасікі на фуражках, матузок такі чорненькі прычэплены. За суткі разбіў Бэльгію і прывёз на працу бэльгійцаў. Зайшоў праз Бэльгію ў Францыю і прывёз французаў – па пяць пярсцёнкаў на руках і шакаладу поўныя пляцакі.

А рускія як прыйшлі, то цяжка ім было. Не паважалі іх немцы, што не ваявалі яны. Бачыш, за суткі прапусцілі куды. Кідалі кацюшы. Ішлі ў палон. Калі іх прывялі да нас, як мы былі ў лагеры, то рускія сказалі: "О, хоць голад у Расеі, але нешта ўкрадзеш, прынясеш, жменьку атрымаеш за працадзень. Свабода! А тут гума і гума. Каб ведалі, не пайшлі б ў палон, ваявалі".

***-А дзе Вы працавалі ў Германіі?***

-Адразу працаваў на гаспадара ля Гумбінэна ў Прусіі – горад быў за 60 кіламетраў ад граніцы польскай і літоўскай. Гаспадар Кумкэйн, хутар Прэйхшад зваўся. На хутары прарабілі да 41-га года. Я пры каровах быў. Устаць мусіў у ночы з немкай даіць карову. А пакуль іх спарадкаваць – ужо аж да вечара. Усё па гадзінніку ў немцаў было распісана: калі абед дык абед – роўна гадзіна. Напрыклад. На поле паедзем браць снапы ці канюшыну. Да абеду застаецца дзесяць хвілін, усё роўна каня адварочваем, едзем на поле, ускідваем дзесяць снапоў ці пару пластоў. Прыйшоў час – кідай усё! І так вечарам да 6 гадзін.

А ў 41-м сабраліся дамоў. Хоць у гаспадара былі пад'еўшы, але палонны. Ты ж паганы. Паехаў, напрыклад, на кані па вугаль альбо малако павёз. Прыехаў – адразу пытаюцца: "Нацыі якой?" Паляк узлез немцы на дарогу – ужо табе гумы. Ты ж бяспраўны. А тут другі, хто паўцякаў, лісты прыслалі, што граніца Германіі і Беларусі слабая, не акапаная і што смела можна ісці. Упяцёх уцякалі. Разам з намі немец уцякаў.

***-Ён быў сын гаспадара?***

-Не. Наняты быў. Так як парабак. Гэты немец любіў з палоннымі сябраваць. Малады хлопец часта далучаўся да нас на полі. А з палоннымі ў Германіі сябраваць было нельга. Бо немцы лічылі заразным замежнага чалавека. Дык яму раз далі 37 марак штрафу, а пасля тры месяцы адседзеў. У Германіі нават дзяўчат каралі, каторыя з намі захадзілі. Немку тады на шэсць месяцаў садзяць і галаву абстрыгуць, што паганая ўжо, з палонным жыла. А палонных, калі з немкай заняўся, вешалі. Устроены быў электрычны слуп, узьдвіжка жалезная... Нас збіраюць тады пад канвоем вахманы і прыводзяць паказваць, як паляка будуць вешаць за немку.

***-А чаму немец уцякаў разам з вамі?***

-Уцякаў у Расею. Ахвоты набраўся, што ў Саветах, як напісалі нашы, дазвалялася ружжо браць і паляваць. Дык ён кажа: "На Сібір паеду. Буду план выконваць і паляваць". Набраў есці, мапу ўзяў. Аднак нас злавілі пры граніцы. Немцы на Расею сабраліся ісці ваяваць і ўжо былі ўскрапчылі граніцу каля Сувалак. Коні стаялі ў бараках з дошак пазбіваных і інш.

Немца адразу адлучылі ад нас. А нас пасадзілі ў бункер. Затым адправілі ў лагер. Тры месяцы пад армію цяпер трэба было адрабіць. Лагер у лесе знаходзіўся, непадалёку ад горада Прэйс-Эйляў у Прусіі. Гэта быў першы лагер ад граніцы – і штабляк А. Там у холад капалі камень па калена ў вадзе. Не выканаў плану – пыткі.

Аднойчы дамовіліся ўдвух палонныя ўцячы ноччу з гэтага лагера. Пакінулі шынэлькі каля ям, дзе жвір для дарог бралі, і дамовіліся там сустрэцца. Уцяклі праз дрот. А святло ўключана, вахман вакол лагера ходзіць. Таму немцы хутка агледзеліся. Як пачал нас ганяць: "Чаму не наказалі вахманам, як яны ўцякалі?" Нарабілі з калючага дроту вітушак, пакідалі пад ногі і пачалі нас голых ганяць. У адной кашулі былі. Бо ў кальсонах не давалі спаць. Немец і сам без портак, толькі ў кашулі спаў. І гэтак нас гоняць па вітушках і лупяць палкамі і гумамі па вярху. Білі-білі. Аж прыганяюць аднаго ўцекача. Ён, значыць, быў уцёк і чакаў напарніка ля шынэлек. А ішоў вахман на гэту бяду з адпачынку Уцякач думаў, што свой і свіснуў. Вахман адсвіснуўся. А ноч цёмная. Увосень было Палонны выйшаў, а вахман ухапіў яго. Калі прывялі ўцекача, то ўсім было загадана біць яго голага. Немцы яшчэ баб сваіх на машынах папрывозілі і тыя стаяць у варотах, аж лопаюць, гэтак яны смяюцца, як нас немцы б'юць. І, значыцца, увесь лагер павінны быў біць уцекача за тое, што ўсіх білі праз аднаго. Бі колькі скажуць, што ён праграшыў. А як жа будзеш свайго? Шкода. Але калі слаба б'еш, лажыся і цябе будуць. І цэлую ноч такая барацьба ішла Лепей застрэліцца. Чым ісці ў палон. Застрэліўся – ўсё роўна адзін раз жывём, а то во што пражылі...



Крыху пазней працавалі ў начальніка лагера, які меў гектар зямлі, карову. Адпрацавалі гады са тры. А калі ён памёр і засталіся адны бабы – зноў мы ўцякалі. Удзень тады заляглі ў кусце на полі схавацца. Раптам прыйшоў немец і пачаў зямлю араць каля гэтага куста. Уцячы ж нельга – дзень. Тады прыбягае сабака да гэтага чалавека ў капелюшы і пачаў брахаць на нас. Немец дастаў браўнінг, і мы праз поле пабеглі да лесу. А там хутары навокал – растрэсена па адной хаце – і ў кожнага свой тэлефон. Каля дарогі ў Германіі таксама парастаўляны тэлефоны. Наляцела болей немцаў і сабак з імі. І злавілі нас у ляшчынніку. Ну і што? Злавілі – пыткі. Колькі хочуць, столькі цябе лупяць. Ты ж бяспраўны, як цябе злавілі. Потым каля Кёнігсберга адбываў кару.

***-Да якога года давялося ў нямецкім палоне адбыць?***

-Асвабадзіла Расея ў 45-м вясной. Немец не даваў палонным аставацца, гнаў прад сабой. Я быў палонны і яшчэ адзін чалавек, які з-пад Віцебска літоўцамі вывезены. Узялі каня. Набралі адзення, ежы і паехалі да рэчкі, што бліжэй да фронту. Тут гара, тут рэчка. Падкапалі гару ад рэчкі і зрабілі бункер. Паставілі слупы, накат. Нас ніхто з немцаў не агледзеў і гэтак мы засталіся. Потым рускія падыйшлі з аўтаматамі: "Хто такія?" Мы кажам: "Палонныя"

***-А што было адразу пасля вайны?***

- Сабралі нас і ў 45-м павезлі дамоў. У Вільні я злез. Кажу: "Тут брат мой, які ахвотнікам у польскім войску ваяваў. Ужо з палону выпусцілі яго. Пайду да брата" А мяне не адпускаюць. Сказалі, што гэта раней была Віленская вобласць. А цяпер Маладзечанскую зрабілі за гэтыя гады пры Саветах і што ў Маладзечна выпусцяць і на машынах будуць развозіць. Прыехалі ў Маладзечна Замест таго, каб адправіць дамоў, прычапілі плятформу кіламетраў са тры – брэты і палаткі – і аж у Саратава.

Прывезлі на поле, разгрузілі. На вышку ўзлез нейкі палкоўнік ці генерал і вычытаў: "Вашы сёстры, брацце, бацькі – ўсе працуюць у кагасах, на будоўлі. І вы мусіце на 5 год план паставіць: пабудаваць газапровад Саратаў-Масква на 110 кіламетраў". Ну, дык пяць гадоў і рабіў.

Гэта пасля вайны нас усіх адразу туды павезлі – дзесяць тысяч чалавек. Саветы шукалі ўласаўскіх і таму палонным веры не давалі, а вывозілі. Уласаўцы ж прадалі і ўпусцілі аж да Ленінграда фронт. А я меў таблічку люмінавую з польскай вайны. У войску такія выдаваліся, дзе ўказваліся полк, дывізія. У Саратаве ўзяў картачку люмінавую. Прыходжу да начальства і пытаюся: "Які ж я ўласавец, што на казню вывезлі на пяць год? Я ж з польскай вайны". Тады я там у ахове рабіў, людзей пільнаваў. Усё роўна план далі. Мусіў адбываць. У Разані нам участак быў: вёска Табаева, станцыя Карабліно. А гаспадаром кватэры быў Іван Скакун...

Пазней, хто з палонных у Германіі за пяць год не апраўдаўся, яшчэ на пяць год у Уфу вывезлі на руду жалезную канчацца. Апраўдання ці сведкаў няма – значыць, уласавец. Не немец цябе вывез, а ты сам з немцамі ўцякаў. Пры мне вывозілі. У лагеры мы ў чатырох – пяці вартавых засталіся з апраўданымі. А іншых пасля допытаў павезлі за казню, так, як уласаўцаў.

***- Потым адразу да хаты адпусцілі?***

- Прыехаў дамоў... У калгасе брыгадзірам паставілі. Дваццаць чатыры двары ад Рыдуплі, Мельнікаў і да Глыбокага Ручая ўваходзілі ў маю брыгаду. Пабудаваў сабе хату. У той час Беларусь крэпкай была, з Амэрыкай раўняліся. Такія фермы былі тысячнікі. Не было дзе мяса здаць. У мяне самога дзве каровы дойныя былі. Здаць не можна было. Ніхто не прымаў, бо загружаныя базы былі. А Брэжнеў Агістан за ноч таксама быў забраўшы. Ды многа быў зрабіўшы ўжо.

- А вось што Гарбачоў зрабіў. З Амэрыкай здружыў, цяпер яна не баіцца. І немца выпусціў. Падумаць толькі, нашы выпусцілі немца. Гэтак ён нас катаваў! Сколькі людзей перабіў, перапаліў! Спаліў маіх дзядзькоў чатырох з дзяцьмі ў гумне ў вёсцы Крапіўна. За Мядзелам шэсць кіламетраў. Хто пры ім жыў, кожны гумы скаштаваў. А яго во. Выпусцілі з ланцуга. Зараз немец на свабодзе. Узбаецца і яшчэ прыйдзе нас лупіць. Вось да чго вярхушка дапушчае!

Цяпер людзі маркі палучаюць, што мы адрабілі немцу. А я нічога дайсці не магу. Як дапрашвалі мяне ў Расеі, шукаючы ўласаўскіх, замест Часлава Часлававіча запісалі Вячаславам Вячаслававічам. На допыце сказалі, што Чаславаў у нас няма, а ёсць Вячаславы. Калі перачытваў, што там было напісана, то нічога не разумеў. Я ж у польскай школе вучыўся. Па-французку ў Польшчы вучылі, а па-руску не вучылі. Дык, вось. У архіве ўсё знайшоў, дзе ў гаспадароў рабіў і што рабіў. А мне кажуць – гэта не твайго отчыства дзела, а другога Часлава. І што ты дакажаш? Тады сказалі, каб даў праз суд двух сведкаў, з якімі працаваў у палоне. А яны пазміралі. Напрыклад, у Труханках Шышэўскі быў. Ён разам са мной у лагерах сядзеў. Разам са мной уцякаў...

Цяпер у другі раз напісаў, што ўсё такі крыўдую. І як даказаць, што гэта мае імя? У лагерах жа ўвогуле імён не было. Літара **Р** на грудзях, што паляк,а на плячах твой нумар.

*(Вымаўлене захавана.)*

# ТЫ БУДЗЕШ ЗВІНЕЦЬ, МАЯ РОДНАЯ МОВА!

## *Сцэнары школьных святаў*

## Метадычная распрацоўка гульнёвай праграмы "Каляды"

**Гаспадыня:**
Добры вечар, шчодры вечар,
Добрым людзям на ўвесь вечар!
Зараз Каляду сустракаць будзем
Гасцей частаваць будзем.
*(Чуецца музыка. Уваходзіць павадыр з казой).*

**Павадыр:** Ці дома хто ў хаце?

**Гаспадыня:** Дома, дома, заходзьце.

**Павадыр:**
Добры вечар, пані гаспадыня!
Ідзем мы ад пана Года
Што носіць бараду
Шыроку, як лапата,
Сіву ды касмату.
Прыйшлі да цябе папытаць,
Ці шырокія ў вас лавы, каб паляжаць,
Ці добрая гаспадыня,
каб нас пачаставаць?

**Гаспадыня:** Ды заходзьце, заходзьце.

**Павадыр:**
Заходзь, Каляда, калядуючы,
А з ёй і дзеўкі шчадруючы.
Усе заходзяць. Гэй, Каляда!
*Гучыць калядная песня.*

**Павадыр:** Была Каляда ў адной хаце.

**Усе:** Гэй, Каляда!

**Павадыр:** А ў гэтай хаце срэбра звініць! Пайшла Каляда ў трэцюю хату.

**Усе:** Гэй, Каляда!

**Павадыр:** А ў гэтай хаце – сала шыпіць! Пайшла Каляда ў чацвёртую хату.

**Усе:** Гэй, Каляда!

**Павадыр:** А ў гэтай хаце - пірагі пякуць, пірагі пякуць і нам дадуць.

**Гаспадыня:**
Рады мы пабачыць
Вас у нашай хаце
Нашым караваем
Вас пачаставаці.
*Гаспадыня частуе ўсіх караваем. Усе абступаюць гаспадыню з караваем у харавод і скакаць.*
Ходзіць бабка каля печкі,
Пашукай нам перапечкі.
Ходзіць дзядзька каля кваскі
Пашукай жа нам каўбаскі.
Залезь, дзядзька, на драбіну
Ды адрэж нам салаціну,
Каб ячмень твой урадзіўся,
Каб пшанічка радзілася.

**1-шы калядоўшчык, падбягае да гаспадыні:**
Ой, добры вечар, пані гаспадыня!
Ці спіш, ці ляжыш, Гасподзь з табою.

**2-гі калядоўшчык:**
Ой, калі не спіш, гавары са мною
Надзень кажушок, выйдзі на вулку,
Стань, паслухай, што ў небе гудзе, -
Прачыстая ідзе, тры радасці нясе:

**3-цікалядоўшчык:**
Першая радасць – у тваім доме,
другая радасць – у тваёй аборы,
трэцяя радасць – у чыстым полі.

**4-ы калядоўшчык:**
У тваім доме - добрыя дзеткі
У тваёй аборы – валы, каровы,
У чыстым полі – буйна жыта!

**5-ты калядоўшчык:**
Буйна жыта каласіста, ядраніста,
кладзеце копачкі, як у небе зорачкі,
кладзеце стажкі на чатыры ражкі.

**1-ы калядоўшчык:**
Гэй, каза, гэй, шэрая,
дзе рогі дзела?

**Каза:**
На соль праела!
Соль дарагая,
а мера скупая *(тупае нагой)*.

**2-гі калядоўшчык:**
Не дыбай, каза, крывая нага, не станавіся ўпоперак дарогі. На жабе ляску, у залёты пабірацiся. *(Каза брыкаецца.)*

**Каза:**
Чорт цябе бяры з залётамі,
ёсць у мяне конь за варотамі.

**3-ці калядоўшчык:**
Дзе каза рогам –
**Усе:** Там жыта стогам!

Дзе каза не бывае –
**Усе:** там вылягае!

Дзе каза ступіць –
**Усе:** Там сена кусціць!

Дзе каза нагою –
**Усе:** Там жыта капою!

**Павадыр:** Ой, каза, казіпча, вазьмі разыдзіся, ды развесяліся. *(Усе танцуюць. Каза падае. Усе абступаюць. Што гэта з ёю?)*

**Павадыр:** Мусіць змарылася, піць захацела?

**Каза:** Ме-е-е-е.

*Гаспадыня нясе квас, частуе ўсіх.*

**Усе:** Уставай, каза, чаго яшчэ хочаш?

**4-ы калядоўшчык:** Мусіць, каўбасы?

**Каза:** Ме-е-е-е *(ківае галавой)*.

**Механоша:**
Ты стара каза, устань ды разыдзіся
Гаспадыньцы ў ножкі пакланіся,
Бо яна ідзе, рэшата аўса нясе,
А паверх аўса – каўбаса.
*(Гаспадыня кладзе ў мяшок пачастункі. Каза ўстае і гаворыць).*

**Каза:**
Май торбу грошай.
Жыві ў раскошы.
Май усяго даволі,
А бяды – ніколі.

**Гаспадыня:** Дзе ж вы казу даcталі?

**Павадыр:** На рынку ў старога выменяў.

**Гаспадыня:** А сам дзе так навучыўся?

**Павадыр:**
Па ўсім свеце ходзячы,
торбу хлеба носячы,
Дзівы дзіўныя відаючы,
Розныя кніжкі чытаючы,
Уверх нагамі трымаючы.
*(Выходзіць цыганка з квасам, выпівае, аддае кубак гаспадыні і спявае):*
"Палюбіла я яго, маладога цыгана.
Кудры чорныя ў яго, а вочы шамана,
Ой, нэ, нэ, нэ...

Пад'язджает да мяне
І з каня злятае
Кажа мне: Душа моя,
можа пагадаеш?"
Ой, нэ, нэ, нэ...

*(Выходзяць цыганкі, танцуюць, гадаюць.)*

Пані гаспадыня, паглядзі, што будзе.
Зараз мы станцуем,
Калі ж мы танцуем,
Свае боты не шкадуем,
Не шкадуем свае боты,
Бо скакаць маем ахвоту,
І ты з намі патанцуй,
чаравікі не шкадуй!
*(Усе танцуюць "Падыспань", "Лысага").*

**Калядоўшчык:** У народзе кажуць: "Ад гульні галава не баліць". Дык давайце ж намі пагуляем. Гаспадынька, ці ведаеш ты калядную гульню "Яшчар"?

*З удзельнікаў выбіраецца яшчар. Усе ўтвараюць круг. У сярэдзіне яго сядзіць яшчар. Усе ідуць у карагодзе вакол яго і прыгаварваюць:*
Сядзіць, сядзіць яшчар,
Гэй, нам, гэй!
На залатым крэсле,
Гэй, нам, гэй!
Гарэшачкі лушчыць гэй, нам, гэй.
Ды ў торбачку сыпле, гэй, нам, гэй!

*Яшчар уважліва назірае, каб ніхто з дзяцей не смяяўся і ў той момант, калі гучаць словы "гэй..." усе ўздымаюць рукі ў гару. Той, хто парушыць гэтае правіла, аддае яшчару фант. Пасля фанты разыгрываюцца. Пэўна фант перадаецца ад аднаго ўдзельніка да другога – так, каб той, каму належыць фант не заўважыў у каго ён.*

*Затым уладальнік фанта адгадвае, у каго знаходзіцца яго рэч. Калі той, хто шукае фант, не знойдзе яго адразу, дзеці яму гавораць:*

"Не ўгадаў на чыёй руцэ залаты пярсцёнак! Каляда!"

*Ён становіцца ў круг і выконвае ролю яшчара.*

**Калядоўшчык:** Паважаная гаспадыня!
Мы "бывай" не кажам,
Кажам "да спаткання".
Пакідаем песню
вам на развітанне.
*(Усе выконваюць беларускую народную песню "Ажаніўся стары дзед").*

**5-ы калядоўшчык:** Дзякуй табе, гаспадыня, за добрую сустрэчу.

**Павадыр:** Яшчэ раз жадаем табе:

**1-ы:** На полі – каноплі,
**2-гі:** У гумне – саломкі,
**3-ці:** На таку – умалотамі,
**4-ы:** У млыне – з прымоламі,
**5-ы:** У дзяжы – з падыходам,
**6-ы:** У пячы – з падростам!

**6-ы калядоўшчык:** Дзякуй табе, гаспадынька, за шчодрую ласку тваю, цёплы прыём.

**Павадыр:** А мы, каза, далей пойдзем калядаваць, другіх гаспадароў віншаваць.

**Усе:** Гэй, Каляда!
*Усе выходзяць з песняй.*

**Гаспадыня:**
А праз год калядкі дажыдацца будзем,
Новыя пачастункі рыхтаваць будзем!
Бывайце здаровы!
І ў шчасці жывіце!
А Ходараўцы нашы
Ніколі не мініце!

# Вытокі нашай незалежнасці

***Конкурс "Вытокі нашай незалежнасці", які праводзіла Таварыства беларускай мовы, атрымаўся цікавым і змястоўным, нягледзячы на не надта спрыяльны час ягонага правядзення, бо якраз ішла падрыхтоўка да экзаменаў у ВНУ і школьнікі заканчвалі вучэбны год. У ім прынялі ўдзел 52 школьнікі і студэнты з усіх абласцей нашай краіны (апроч Гарадзеншчыны), а таксама з Менска. Вынікі падсумоўвае знаная пісьменніца Вольга Іпатава, старшыня журы, у якое ўвайшлі кіраўнік ТБМ Алег Трусаў, яго намесніца Людміла Дзіцэвіч, супрацоўніца ТБМ Ірына Марачкіна і пісьменнік Эрнест Ялугін.***

***"Гісторыя БНР – гэта выток нашай існасці"***

Так вызначыў школьнік з Вілейкі Алесь Танкевіч гісторыю Беларускай Народнай Рэспублікі ў эсэ, прысланым на конкурс "Вытокі нашай незалежнасці."

Конкурс паказаў, што тыя нашы чытачы, хто выпісвае газету "Наша слова"і "Новы час", даволі ўпэўнена арыентуюцца ў такой не надта знанай для многіх маладых ( ды і больш сталых) беларусаў тэме, як гісторыя БНР і яе дзеячы. Прычына гэта вядомая: усе гады савецкай ўлады ішло не толькі шалёнае цкаванне тых, хто стварыў першую за многія стагоддзі сапраўды нацыянальную краіну, але і стараннае замоўчванне ўсяго, што было звязанае з падзеямі 25 сакавіка 1918 года.

Нас надта парадавала тое, што ўдзельнікі конкурсу часта звярталіся да тых падзей і імёнаў, што былі звязаныя з іх роднымі мясцінамі. Так, вучаніца сярэдняй школы вёскі Бацэвічы Клічаўскага раёна Магілёўскай вобласці Каця Каралёк напісала пра свайго земляка, ураджэнца гэтай вёскі Аркадзя Смоліча, аднаго з дзеячоў БНР (дарэчы, яшчэ ў першыя гады нашай незалежнасці энтузіясты паспелі ўвекавечыць імя стваральніка многіх кніг па нацыянальнай гісторыі і геаграфіі мемарыяльнай дошкай на сценах гэтай школы. Ёсць, нарэшце, стэнд пра яго і ў музеі г. Клічава). Школьнік з вёскі Гатаўшчына Глыбоцкага раёна Аляксей Бука напісаў верш таксама пра недалёкага ад яго вёскі ўраджэнца родных мясцінаў, выдатнага беларускага дзеяча Вацлава Ластоўскага ( які нарадзіўся ў в. Калеснікі цяперашняга Мёрскага раёна). Падаём страфу з ягонага верша:

***Ен – за нашу Беларусь***
***Ў гістарычных гранях,***
***За якую я малюся***
***Кожны дзень ад рання.***

Яўген Бондараў з Магілёва сярод многіх славутых дзеячоў БНР ўзгадвае і першага старшыню ўраду БССР, які быў закатаваны энкавэдзістамі за сваю нацыянальную працу - а менавіта, пісьменніка Цішку Гартнага (Зміцера Жылуновіча): " Беларускіх патрыётаў бальшавікі знішчалі і за мяжой, а тых дзеячоў, якія засталіся на радзіме, чакаў страшэнны лёс: Іван Серада — высылка ў Яраслаўль, потым без звестак знік недзе ў 1943 годзе, Аркадзь Смоліч - арыштаваны ў 1930 г., у 1938 - расстраляны, Кастусь Езавітаў - загінуў у няволі, Лявон Заяц -памёр падчас следства недзе ў 1935 годзе, Зміцер Жылуновіч памёр у псіхіятрычнай бальніцы ў г. Магілёве". Ен узгадвае таксама шэраг дзеячоў БНР, чыімі імёнамі павінны быць названыя вуліцы і плошчы Беларусі. "Яны і зараз жывуць у нашых сэрцах " - піша Яўген Бондараў.

А вось навучэнка Бабруйскай Славянскай гімназіі Маргарыта Пятруша напісала нататку пра амаль зусім невядомага шырокай грамадскасці Вячаслава Васілевіча Багдановіча, пастаяннага аўтара штомесячнага грамадска - палітычнага і літаратурнага часопіса "Беларускі сьцяг", які быў адным з органаў ураду БНР. Маргарыта падрабязна расказвае пра гэтага ўраджэнца Віцебшчыны, які быў у 1939 годзе арыштаваны органамі НКУС і якога невядома дзе, як і іншых нацыянальных дзеячоў, спаткала пакутлівая смерць. В. Багдановіч выкладаў Закон Божы ў Віленскай беларускай гімназіі, уваходзіў ў Беларускі пасольскі клуб і заснаваў "Беларускае праваслаўнае аб'яднанне". І заканчвае дзяўчына свае нататкі такімі словамі: "Сёння шмат напісана пра 25 сакавіка, і гэта неабходна. Толькі наш культурны ўздым быў вынікам дзейнасці не толькі тытанаў краіны, але і самастойных творцаў, пакінутых у забыцці, адным з якіх быў Вячаслаў Багдановіч".

Некаторыя ўдзельнікі конкурсу прысылалі нам свае малюнкі, фатакарткі. Напрыклад, Ганна Колб, вучаніца Пінскай гімназіі (нажаль, яна не ўказала нумар сваёй навучальнай установы), прыслала, апроч вершаў, аздобленых малюнкамі, каляровае фота з наступным надпісам: "Гэта я з татам. Мы ў Кастраме. Кастрама горад прыгожы, але Пінск не саступае. Добра ў гасцях, але дома лепш." Перад вершамі Ганна напісала свае развагі пра тое, як яна разумее незалежнасць. І гэта не толькі "магчымасць выказваць свае думкі, гаварыць на сваёй мове", але і "тоé, што мы можам расці і развівацца, што наша краіна - гэта краіна, а не якое - небудзь далучэнне да другой краіны". А ў вершах "Шчасце не ў золаце" і "Незалежнасць" яна піша пра Беларусь так:

***Я кахаю цябе,***
***Цябе, і ты, можа,***
***Знаеш аб гэтым!***

Разам з цытатамі з верша Ганны мы друкуем і яе фатакартку з бацькам. Нас парадавала, што гімназістка добра ўсведамляе прыгажосць і гістарычную вартасць менавіта роднага Пінска, сапраўды аднаго з найпрыгажэйшых гарадоў Беларусі.

У сваіх вершах, эсэ, апавяданнях і нататках многія ўдзельнікі конкурсу разважаюць на тэму не толькі гісторыі БНР, але і многіх сённяшніх падзей, якія іх хвалююць. Апісваючы дэманстрацыю 1 траўня, якая прайшла пад лозунгам Дня працы і салідарнасці працоўных, Жэня Багданава з Гомеля піша: "Прыйшла я на плошчу, дзе пачынаецца шэсце і выращыла знайсці каго - небудзь пад нашым родным бел-чырвона- белым сцягам, што не вельмі проста, а пад гэтым... сучасным, ісці не хочацца. Нарэшце згледзела.Сцяг звычайны (бел- чырвона- белы), а на чырвонай паласе якаясь чырвоная кветка. Потым я даведалася, што гэта БСДП.... Свае, аднак, людзі. З імі і пайшла Але які прыгожы наш сцяг, асветлены сонейкам!".



*Ганна Колб з татам*

Пра бел – чырвона – белы сцяг, які ўсе болей успрымаецца моладдзю як асвечаны гісторыяй і шматвяковай барацьбой беларусаў за сваю незалежнасць, згадваюць многія ўдзельнікі конкурсу.

Вось што піша сёлетняя выпускніца школы № 56 г. Гомеля Марына Дударэнка: " Усе мае аднакласнікі раслі ў рускамоўным асяродку, але многія сярод нас адчуваюць патрэбу размаўляць па – беларуску. Не так даўно мы захапляліся падзеямі ў Менску, дзе нашыя аднагодкі, навучэнцы ліцэя імя Я. Коласа, прастаялі лета ў пікетах...Адзіны ў рэспубліцы беларускамоўны ліцэй усё ж зачынілі, але ліцэісты з падтрымкай сваіх настаўнікаў працягвалі вучыцца ў неверагодных умовах... Навучэнцы не здрадзілі свайму ліцэю, а галоўнае - сваёй мове... Сапраўды, чым большы націск, тым большая сіла супраціўлення"...

Галоўнае ў нацыі - гэта яе змагарны дух, яе разуменне свайго будучага і шляхоў пераадолення неспрыяльных абставін.

Гэта разумеюць многія маладыя. Зміцер Плотнікаў, студэнт Тэхналагічнага універсітэта, узгадваючы пра нацыянальны рух пачатку XX стагоддзя, напісаў: "У той час моладзь, студэнты, нават школьнікі разам з вядомымі інтэлігентамі нястомна працавалі над захаваннем нацыянальнай мовы і культуры, адраджалі, звязвалі ўсё гістарычнае багацце нашай Бацькаўшчыны, па адбітачках збіралі той вялікі скарб, што маем мы, няхай і зноў пасечаны разнастайнымі абставінамі, сёння. ... Але будзем спадзявацца, што ўсе перашкоды толькі закалілі дух беларуса і яго веру ў Будучыню, якую, між іншым, ствараць нам, сёння." Таццяна Дарошка, студэнтка гэтага ж універсітэта, ствараючы цэлую галерэю дзеячоў нацыянальнага руху пачатку XX стагоддзя, найперш натхняльнікаў і ідэолагаў БНР Івана і Антона Луцкевічаў, а таксама Вацлава Ластоўскага, таксама праводзіць гэтую думку – будучыня закладаецца сёння, як закладалі яе для нас, сённяшніх, нашыя папярэднікі, што аддавалі сваё жыццё за незалежніцкія ідэі. Партрэты дзеячоў БНР Таццяна не робіць толькі з аднаго – гераічнага— боку, яна паказвае іх як людзей, якія мелі і недахопы, ды тытанічным намаганнем уздымалі сябе да вышыні праблем, якія даводзілася ім вырашаць. Вось як піша яна, напрыклад, пра В. Ластоўскага: "Ластоўскі, з прычыны асаблівага складу свайго характару, не быў і не мог быць за выдатнага палітыка. Гэта быў просты і чулы чалавек, паэт і навуковец. Палітычныя нарады, сходы і спрэчкі яго моцна ўсхваляёўвалі, стамлялі і выбівалі з навуковай працы. Калі часам здаралася, што на гэткім сходзе гутарка заходзіла аб старадаўняй беларускай культуры – Ластоўскі адразу змяняўся. Гэта быў ужо іншы чалавек." Можна згаджацца ці не згаджацца з гэткай высновай, але з яе вынікае тая думка, што ў цяжкі для Радзімы час не трэба чакаць, пакуль нехта прыдзе, каб здабываць табе свабоду -- да гэтага трэба імкнуцца кожнаму.

Падобную да гэтай тэмы, а менавіта " паэт і палітыка" — вырашыў вынесці на конкурс вучань 11 класа з г. Вілейкі Менскай вобласці Сяргей Макарэвіч. Яго праца называецца "Янка Купала і БНР". У ёй аналізуюцца адносіны нашага вялікага паэта да стварэння БНР, а таксама гучыць яснае і цвёрдае перакананне, што і сённяшні нацыянальны паэт не можа стаяць ўбаку ад захавання нацыі і яе духоўнай асновы. Гэта, безумоўна, тычыць кожнага з нас, але паэту даецца многае, і ён – адказны за свой талент...Сяргей сам піша вершы, актыўны сябра ТБМ. Ен здолеў згуртаваць вакол сябе многіх аднадумцаў і вылучаецца актыўнай жыццёвай пазіцыяй.

Нажаль, толькі нямногія ўдзельнікі конкурсу зазірнулі ў сённяшні дзень БНР, якая існуе і працуе ў замежжы. А між тым гэта яркая і ахвярная старонка беларускага нацыянальнага жыцця. Тым цікавей чытаць зацемку вучня школы № 144 г. Менска Ягора Дубаневіча пра сённяшнюю дзейнасць старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы па гуманітарнай дапамозе пацярпелым ад чарнобыльскай катастрофы і пра яе творчасць як мастачкі. Нядаўна ў Менску адбылася мастацкая выстава, дзе экспанаваліся творы І. Сурвілы, і тых, хто яе наведаў, уразілі вытанчана – пяшчотныя пейзажы Беларусі, яе храмы і выдатныя гістарычныя мясціны.

Вынікі конкурсу падведзеныя. Пераможцамі яго сталі Таццяна Дарошка з Менска, Сяргей Макарэвіч з Вілейкі і Марына Дударэнка з Гомеля. Яны, а таксама ўсе ўдзельнікі нашага конкурсу атрымаюць прызы — кнігі беларускіх пісьменнікаў, сярод якіх "Анталогія беларускай паэзіі "Краса і сіла" (укладальнік Міхась Скобла), паэма "Новая зямля" Якуба Коласа на трох мовах, творы Янкі Купалы, апошнія выданні кніг Васіля Быкава, у тым ліку і бестселер, што вытрымаў ужо чатыры выданні — "Доўгая дарога дадому", гістарычныя раманы Уладзіміра Караткевіча, Алеся Пашкевіча, Васіля Якавенкі і многія іншыя кнігі.

Таварыства беларускай мовы ўдзячнае ўсім, хто адгукнуўся на яго ініцыятыву. Мы спадзяёмся, што ўдзел у нашым конкурсе дазволіў вучням і студэнтам удасканаліць свае веды, пашукаць тыя кнігі і працы беларускіх аўтараў, якія пішуць пра нялёгкія гістарычныя шляхі да нашай незалежнасць. Дарэчы, у многіх працах ёсць спасылкі на аўтараў, творы якіх былі прачытаныя ўдзельнікамі конкурсу перад тым як узяцца за прапанаваную ім тэму. Гэта таксама нас радуе, бо за апошнія гады з'явілася нямала па – сапраўднаму выдатных і так патрэбных для сённяшняга нацыянальнага самаўсведамлення зрусіфікаванае нацыі артыкулаў, кніг, брашураў, многія з якіх былі абазначаныя ў спасылках.

Спадзяёмся таксама, што наступныя конкурсы выявяць новых таленавітых хлопцаў і дзяўчат, неабыякавых да нашае гісторыі і будучага нашай Бацькаўшчыны. А яго магчыма будаваць толькі абапіраючыся на здабыткі папярэднікаў, на асэнсаванне пройдзеных нацыяй шляхоў, якія вялі не ў рабскую прыналежнасць да іншых народаў, а на стварэнне ўласнай дзяржавы і яе Незалежнасць.

***Вольга Іпатава.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 28. 06. 2004 г. Замова № 1209.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 4500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1280 руб., 3 мес.- 3840руб.
***Кошт у розніцу:*** 295 руб. (у Менску - 310 руб.)